„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.



# Ніва



№ 5 (49) БЕЛАСТОК, 3 ЛЮТАГА 1957 г. ГОД II



*Замак у Міры. Від з возера.*

КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛА

## БЕЛАРУСЬ

Бязвольнымі успыхамі
Цвітуць зарніцы белыя...
Жытнёвымі ўздыхамі
Плывуць палеткі спелыя.
Зямля мая далёкая,
Зямля мая цудоўная,
Радзіма сінявокая,
Якая-ж табе роўная?
Мо' ёсць і прыгажэйшая:
Каму што ў свеце глянецца..
Мая-ж — найдаражэйшаю
Да смерці мне астанецца!



## Каб беларусы больш пра сябе ведалі

У шмат школах ужо беларускія дзеці вывучаюць родную мову. Імкнемся, каб беларуская асвета і далей пашыралася, каб навучаннем беларускай мовы ахапіць усіх беларускіх дзяцей у пачатковых школах і ўсю беларускую моладзь ва ўсіх без выключэння сярэдніх школах.

Ці ўдасца гэта? Павінна! Зараз існуе шмат розных перашкод на гэтым шляху, але яны не могуць затрымаць імкнення да ажыццяўлення пастаўленай мэты. Памінаючы складаную палітыку асветных уладаў з яе памылкамі і недахопамі, перашкодай у сістэматычным развіцці беларускай асветы з'яўляецца часта неўласцівы падыход бацькоў — беларусаў да справы роднай асветы, неразуменне яе заклад͏зін, істоты, яе мэты ў нашых умовах.

Нельга моцна здзіўляцца. Мала, вельмі мала працавалася над тым, каб людзей — беларусаў, беларусаў — бацькоў і беларускую моладзь пераканаць у патрэбе мець свой нацыянальны гонар, патрыятызм, які перш за ўсё заключаецца ў любві да свайго народа, сваёй культуры і мовы. Ёсць сярод беларусаў гэткія імкненні, але іх за мала. За мала ведае беларус аб беларусах, каб быць нацыянальна ўстойлівым, каб яго асабістыя амбіцыі былі поўнасцю задаволены і таму хістаецца і таму схільны да таго, што яму выдаецца мацнейшым, больш ганаровым, больш вядомым аб чым больш і галасней гаворыцца.

Чаму, хочучы паказаць сябе інтэлігентным, беларусы нават паміж сабою размаўляюць па польску, або па- руску. Бо былі і ёсць такія, якія гаварылі што беларуская мова, простая непрыгожая, мужыцкая мова. Але не сказалі, што ўжо 1.000 год існуе гэтая простая мова і пакаленні карысталіся гэтай мовай; не сказалі беларусу, што ў XIV XV стагоддзях беларуская мова была дзяржаўнай і літаратурнай мовай вялікага княства літоўскага. Усе дакументы, запісы, усе літаратурныя творы пісаліся толькі гэтай мовай. Беларуская мова была ў вялікай пашане, бо ўжо тады яна была багатая, развітая, прыгожая.

За мала беларусы ведаюць аб сваім мінулым, а веданне гэтага вельмі патрэбнае.

Веданне беларускай гісторыі вельмі патрэбна нашым дзецям, школьнай моладзі, бо гэта разбудзіць у іх любоў і пашану да свайго народа, да тых простых людзей, якія калісь жылі, цэлымі стагоддзямі змагаліся за тое, каб нам — іх праўнукам далёкім, лепш жылося.

Дагэтуль нашы школы вучылі нашых беларускіх дзяцей беларускай мовы. Ды так сур'ёзна падумаць аб гэтым, паспрабаваць прааналізаваць вынікі навучання дзяцей беларускай мовы ў школе, акажуцца яны вялікія, ды як-бы няпоўныя. Як-бы чагосьці нехапала ў тых ведах, якія мы даем аб беларусах нашым дзецям. Нехапае ў іх ведаў з гісторыі беларускага народа.

Мова, паняцце гістарычнае гаксама як і народ паняцце гістарычнае. Два гэтыя паняцці цесна з сабой звязаны — мова і народ праз увесь час яго існавання. Вывучэнне мовы нельга аддзяляць ад вывучэння гісторыі народа.

А ў нашых школах вывучаецца мова, ды не вывучаецца гісторыі народа, які стварыў, развіваў і захоўваў гэтую мову. Ці добра гэта? Напэўна не! Польскія дзеці ўжо ад 4-ага класа вучацца гісторыі польскага народа, а беларускія дзеці, нават у сярэдняй школе гэтай магчымасці не маюць.

Праўда, што беларуская асвета, як асвета меншасці ў Польшчы, не пазбаўлена ў развіцці сваіх спецыфічных асаблівасцей. Але адсутнасць усялякіх магчымасцей дзецям у школе здабываць гістарычныя звесткі аб сваім народзе, не належыць і не можа належыць да спецыфічных асаблівасцей у развіцці беларускай асветы ў Польшчы. Гэты прабел трэба папоўніць.

Як? — запытаем. Дзе настаўнікі, дзе падручнікі, дзе праграма? Усё гэта правільна. Ды вялікую надзею ў вырашэнні гэтага пакладаем ў нашых беларускіх настаўнікаў, якія разумеючы глыбока справу і з'яўляючыся адданымі свайму народу не пашкадуюць сіл з мэтай, каб беларускія дзеці, ужо ад 4-ага класа вучыліся сваёй гісторыі. Верым, што нашы настаўнікі з сэрцам падыдуць да гэтай справы, і па меры сваіх сіл і магчымасцей дапамогуць у канчатковым уласцівым вырашэнні яе.

Галоўнае Праўленне БГ-КТ павінна наладзіць справу, каб у хуткім часе з БССР у нашыя кнігарні былі прысланы падручнікі па гісторыі Беларусі для ўсіх класаў, якія там зараз існуюць.

Гэта на пачатак забяспечыла-б пякучыя патрэбы. А далей і нашае Беларускае школьнае выдавецтва ў Варшаве неадкладна павінна заняцца апрацоўкай падручнікаў па гісторыі беларускага народа, якія-б цалкам былі прыгодны ў нашых умовах і для нашай навучальнай праграмы.

Міністэрства асветы павінна заняцца справай падрыхтавання праграмы, якая-б улічвала вывучэнне гісторыі беларускага народа ў школе, як пачатковай так і сярэдняй.

(вл)

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

# БЕЛАРУСЬ — ПОЛЬШЧА



*Вялікі тэатральны зал Палаца культуры профсаюзаў, дзе праходзіў шахматны матч.*




*Міжнародны майстар Б. Сліва і гросмайстар І. Балеслаўскі за партыяй.*



З 30 снежня 1956 г. па 7 студзеня ў Мінску гасціла каманда польскіх шахматыстаў. Польскія шахматысты былі запрошаны Камітэтам па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР і Рэспубліканскай шахматнай секцыяй.

Сустрэчы шахматных каманд ПНР і Беларусі сталі традыцыйнымі. Першая сустрэча шахматыстаў двух братніх рэспублік праходзіла два гады таму назад у Варшаве.

Спартыўны гонар польскай каманды ў другой сустрэчы абаранялі міжнародныя майстры: Б. Сліва, К. Плятэр, К. Голуй, майстры Э. Арламоўскі і Браніцкі, А. Дзінцілоўскі, В. Лучыновіч, А. Тарноўскі, Я. Шукшта, А. Юрчынска.

У склад каманды Беларусі ўваходзілі гросмайстар І. Балеслаўскі, міжнародны майстар Г. Верасаў, майстар А Сакольскі, А. Сайгін, А. Суэцін, Б. Гальдэнаў, чэмпіёнка СССР К. Зварыкіна, кандыдаты ў раднiца чэмпіёнка рэсмайстры А. Шагаловіч А. Ройзман і першаразраднiца чэмпіёнка рэспублікі К. Скегіна.

Матч праходзіў у мінскім Палацы культуры профсаюзаў Шахматысты двойчы «скрыжавалі зброю» на 10 дошках.

Вострая і напружаная барацьба закончылася перамогай беларускіх шахматыстаў з лікам 13,5:6,5. Польскія шахматысты, хаця і праігралі сустрэчу, але прадэманстравалі ўзросшы клас ігры.

ВЫНІКІ СПАБОРНІЦТВА

| I тур | II тур. | Склад беларускай каманды | Склад польскай каманды | I тур | II тур |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1/2 | Балеслаўскі | Сліва | 0 | 1/2 |
| 1/2 | 1 | Суэцін | Плятэр | 1/2 | 0 |
| 1 | 1/2 | Верасаў | Дзінцілоўскі | 0 | 1/2 |
| 0 | 1 | Гальдэнаў | Лучыновіч | 1 | 0 |
| 1/2 | 1/2 | Сайгін | Тарноўскі | 1/2 | 1/2 |
| 1 | 1/2 | Сакольскі | Браніцкі | 0 | 1/2 |
| 1/2 | 1 | Ройзман | Арламоўскі | 1/2 | 0 |
| 1/2 | 1 | Шагаловіч | Шукшта | 1/2 | 0 |
| 1 | 1 | Зварыкіна | Голуй | 0 | 0 |
| 1/2 | 0 | Скегіна | Юрчынска | 1/2 | 1 |

5 студзеня 1957 г. у Мінскім палацы культуры профсаюзаў адбылося ўрачыстае закрыццё матча. Гасцям былі ўручаны памятные падарункі. Адбыўся маланкавы турнір, у якім прынялі ўдзел польскія і беларускія шахматысты. Першае месца ў гэтым турніру заняў міжнародны майстар Г. Верасаў. Вялікую цікавасць выклікалі сеансы адначасовай ігры, якую давалі польскія шахматысты.

Неаднаразовы чэмпіён Польшчы Баглан Сліва іграў супроць шахматыстаў — воінаў Савецкай Арміі, а міжнародны майстар Казімеж Макарчык даў сеанс адначасовай ігры на 22 дошках у Мінскім Палацы піянераў.

За час прабывання ў Мінску госці азнаёміліся са славутнасцямі горада, пабывалі ў тэатрах, на аўтазаводзе, у музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Беларускае Таварыства культурнай сувязі з заграніцай і Камітэт па фізічнай культуры і спорту пры Савеце Міністраў БССР у гонар гасцей наладзілі прыём, які прайшоў у цёплай, і сяброўскай абстаноўцы.

Польскія госці разам з шахматыстамі Мінска і прадстаўнікамі спартыўнай грамадскасці рэспублікі сустракалі Новы год. У час сустрэчы неаднаразова падымалі тост за вечную дружбу польскага і савецкага народаў.




*Адзін з маментаў ігры.*



*Кіраўнік польскай шахматнай дэлегацыі К. Рольнік перадае старшыні рэспубліканскай шахматнай секцыі Г. Верасаву памятны кубак «Ад шахматыстаў Польшчы».*



*На маланкавым турніру Г. Верасаў (злева) і Б. Сліва за партыяй.*

**Папраўка**

Па віне карэкты ў 4 нумары «Нівы» з 27 студзеня ў артыкуле «Захацела бабуленька...» у трэцяй калонцы знізу ў 10 радку, закралася памылка.

Ёсць: спарадзілі трывалую глыбокую пашану ў паляка і глыбокую любоў *да беларуса* да вялікай культурнай спадчыны беларускага народа.

Павінна быць: ...спарадзілі трывалую глыбокую пашану ў паляка і глыбокую любоў *у беларуса* да вялікай культурнай спадчыны беларускага народа.

# ГАРКАВІЧЫ

Калі давядзецца табе, мой сябра, ісці альбо ехаць шырокай пясчанай дарогай з Юраўлян у Гаркавічы (Сакольскі павет), ты абавязкова звярні ўвагу на драўляны крыж з левага боку. Гэта не такі звычайны прыдарожны, які часта сустракаем ідучы крыж. На гэтым крыжы ты прачытаеш: «Тут забіты 8.III.1942 г. нямецкімі акупантамі: Іван і Леанід Прытыцкія, В. Суравец і В. Савіцкі, І. Кастэцкі І, Філановіч, В. Усцілко, П. Яцэвіч, А. Прытыцкі. Мір праху ім».

Чытаючы гэтыя прозвішчы ты абавязкова знімі шапку і пастарайся як найлепш аддаць чэсць застрэленым — жыхарам Гаркавіч. У гэтай брацкай магіле ляжаць комуністы — барацьбіты за свабоду, за праўду. Яны ўжо ў самай ранняй маладосці марылі аб тым, каб ліквідаваць няпраўду, каб вызваліцца ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. І вось таму здзекваліся над імі гранатовыя паліцыянты, вось таму судзілі і кідалі іх у турмы, вось таму і нямецкія вырадкі першых іх стралялі ў Сакольскім павеце. А першых таму, што ні адна вёска не толькі ў Сакольскім павеце, але ў цэлым Беластоцкім ваяводстве ў даваенныя гады не была так ведамай з рэвалюцыйнай дзейнасці як Гаркавічы.

Гэтая вёска дала беларускага дзеяча Валошына, які своечасова з'яўляўся беларускім паслом у польскім сейме. Гэтая вёска дала таленавітага арганізатара і дзеяча Комуністычнай партыі Заходняй Беларусі — Сяргея Прытыцкага і таксама іншых барацьбітаў за свабоду. У ніякай вёсцы не было толькі КПЗБ-оўцаў, колькі ў Гаркавічах.

Гаркавічане добра памятаюць свята Пятра і Паўла ў 1936 годзе. У гэты дзень арыштавалі жандармы Яўгеня і Алеся Несцяровічаў, Алеся Патэльскага, Гіпаліта Баравіка, Янку Яцэвіча, Алеся Усцілку, Анатоля Кісяля, Міколу Савіцкага, Алеся Кішкеля і другога Янку Яцэвіча Потым усім членам КПЗБ прысуджана ал 4-ох да 10-ці гадоў турмы.

У мінулыя гады гаркавіцкая моладзь была рэвалюцыйная. Нават такія падросткі, як Янка Суравец, Павал Пац і іншыя вырашылі ісці дарогай членаў КПЗБ.

З былых членаў КПЗБ у Гаркавічах зараз жыве толькі Яўгені Несцяровіч. Змагаючыся за роўныя правы беларусаў, за лепшае жыццё — жыццё без эксплуататараў, прышлося яму сядзець у турме ў Беластоку, потым у Картузкай Бярозе.

Яўгень Несцяровіч неахвотна ўспамінае мінулае.

— Праўда вельмі дорага каштуе, — сказаў ён — і пачаў расказваць як разам са сваімі таварышамі КПЗБ-оўцамі расклейваў лістоўкі, вывешваў чырвоныя сцягі і як ноччу хадзіў у «Лапіцкія горы» на партыйныя сходы.

Найбольш цяжкімі гадамі для гаркавіцкіх комуністаў былі гады нямецкай акупацыі. Яўгень — чалавек скромны, вельмі мала гаворыць аб сабе. У размове выручыла яго жонка — Вера.

— Геніка вычыталі немцы на расстрэл, — сказала, — але мы тады пахаваліся ад немцаў. Неўдалося ім тады загнаць нас на сход. Калі яна расказвала ў вачах яе блішчэлі слёзы.

Хусткай выцерла вялікую слязу, ўпаўшую на руку і далей гаварыла.

— Мяне многа раз ставілі немцы пад сцяну, хацелі каб сказала дзе хаваецца Генік.

Муж глядзеў на яе, а выгляд твары гаварыў аб тым, што моцна любіць ён сваю жонку, якая некалькі разоў ратавала яго жыццё, якая ратавала яго ад смерці. Выгляд яго твары быў сур'ёзны, сумны і толькі тады павесялеў, калі пачаў Яўгень расказваць, як гэта ён вызваліў свайго сябра, якога нямецкі паліцыянт вёз звязанага ў камендатуру.

Трэба сказаць, што былыя КПЗБ-оўцы — гэта людзі смелыя і мужныя, людзі, якія не зносяць няпраўды і не ўмеюць крывіць душою. З іх трэба браць прыклад.

М. ХМЯЛЕЎСКІ

# Гісторыя адной ініцыятывы

У 1949 годзе па ініцыятыве грамадскага актыву жыхары Трасцянкі, Гайнаўскі павет, прыступілі да пабудовы палявой цагельні. Гаспадары ўзбіралі матэрыял на сушыльню, як: бэлькі, слупы, латы, салома і г.д. Звезлі шмат апалу, накапалі гліны на некалькі сот тысяч штук цэглы. Першая цэгла мела быць прызначана на пабудову прыгожага, новага будынка для Пачатковай школы.

Аднак упачатку 1951 года Аб'еднанне гмінных цагельняў у Бельску, якое апекавалася трасцяніцкай палявой цагельняй, было ліквідавана, а цагельні пераведзена ў склад Бельска - Палляскага прадпрыемства прамысловасці будаўнічых матэрыялаў у Орлі, якое падпарадкавана Ваяводскаму Праўленню прамысловасці ў Беластоку. Вось тут і пачалася ўся трагедыя каштоўнай ініцыятывы трасцянцаў.

Будова школы павінна была быць распачатай яшчэ ў 1950 г. Аддзел асветы ВРН у Беластоку запрапанаваў на гэта 3 мільёны злоты (старых). Але Міністэрства асветы паклікаючыся на пастанову Дзяржаўнай Камісіі гаспадарчага планавання, паведаміла, што будова школы ў 1950 годзе не распачнецца. Аказалася, што будова школы каштуе не 3 мільн., а 36 мільн. злоты.

Але выбраны жыхарамі вёскі Камітэт будовы школы не здаваўся. Дзе яны не пісалі — у Аддзел асветы ВРН, у КП ПЗПР, у КВ ПЗПР, ЦК ПЗПР, у хвалю «49», у рэдакцыі газет і часопісаў. Справа працягвалася—не было відаць яе канца. Што праўда, Аддзел асветы ВРН абяцаў прыспяшыць будову школы, калі жыхары Трасцянкі збяруць у матэрыялах або грашыма 35 прац. агульнага кошту будовы; Ваяводскі Камітэт ПЗПР паведамляў, што будова гэтай школы ахоплена 6-гадовым планам на 1954 г., растлумачваў, што да гэтага часу толькі будуць заканчваны ўжо распачатыя будовы (многія з іх і па сённяшні дзень незакончана); Міністэрства асветы зноў пісала, што справа будовы школы ўлічана на 1955 г.

У 1954 годзе адбыўся адміністрацыйны падзел Бельскага павета. Трасцянка апынулася ў складзе Гайнаўскага павета. Новыя павятовыя ўлады пасля розных аналізаў, гэту будову ўключылі ў 5-гадовы план. «Ну, няхай ужо сабе і ў 5-цігадовым плане — але будзе» — з палёгкай падумалі трасцянцы.

У сувязі з тым, што Ваяводскае Праўленне прамысловасці ў Беластоку ніяк не хоча даць трасцянцам эквівалент (не мае на гэта прававай падставы), Аддзел асветы ВРН узяўся да канца 1957 г. зрабіць поўную прававую і праектна - каштарысавую дакументацыю школы паводле ўжо новых нарматываў.

У канцы мінулага года ездзіла ў Трасцянку двух інжынераў з беластоцкага «Мястапраекта» з мэтай агляду прапанаванага на школу пляца. Заявілі яны, што прапанаваны пляц з'яўляецца цалкам непрыдатным на будову школы — занадта ўзгоркаваты, на 9 м. за вузкі, нівеліроўка гэтага пляца не мае ніякага сэнсу (утварыўся-б вялізны роў у які сцякала-б вада). Размясціць школу за гэтым узгоркам таксама нязручна — на школьны дзядзінец сцякала-б вада, школу засланяла-б царква і дрэвы (якія жаль высякаць) і ўрэшце-ж гэты няшчасны ўзгорак...

Ну, што-ж. Трудна. Калі ўжо інжынеры не могуць «абдолець» гэты ўзгорак, калі прапанаваны пляц не адпавядае новым тэхнічным нарматывам — няхай інж. Баравы з Праўлення школьных інвестыцый пры Аддзеле асветы ВРН паедзе яшчэ раз у Трасцянку і яшчэ раз ясна пагаворыць з людзьмі ў чым справа.. тым больш, што абяцаў гэта зрабіць. Снегу пакуль яшчэ мала, а тэрміны не чакаюць. У выпадку невыканання арыентацыйнай дакументацыі да месяца жніўня г. г., будова школы будзе пераведзена ў інвестыцыйны план на 1958/59 г., а там яшчэ могуць перанесці, напрыклад, на 1961/62 г!...

А мо'-б так дапамагло-б ім у гэтым Прэзідыум Павятовай рады ў Гайнаўцы!... цэгла-ж з сарганізаванай імі цагельні ідзе на патрэбы дзяржаўнай гаспадаркі. Чаму-б не пастарацца аб бясплатнае прызнанне Трасцянцы адпаведнай колькасці цэглы. Яны-ж гэтага напэўна заслужылі.

У такіх абставінах, як кажуць, і гарбатага можа ўзлаваць. «Адным словам, як хочуць так нас і ашукваюць» — кажуць гаспадары.

Не трэба дапусціць да гэтага, каб такія слогі расчаравання знайшлі пацвярджэнне ў фактах.

С. ЯНОВІЧ

## Яшчэ раз аб беларускіх настаўніках

У нашым часопісе ўжо неаднаразова пісалася аб неадпаведным размяшчэнні ў школах Беласточчыны беларускіх настаўнікаў.

Ну што-ж можна аб гэтым сказаць? Зразумела, што такія факты з'яўляюцца моцна крыўднымі не толькі для беларускай асветы, але і для самых настаўнікаў — беларусаў, якія маючы кваліфікацыі па навучанню беларускай мовы і наогул — прадметаў на беларускай мове, вымушаны працаваць у польскіх школах. Скажаце — дзе факты?!

А вось. Чаму, напрыклад: Анна Яканчук — в. Шмурлы л/Бранска ці Храноўскі — в. Тапчэва, Бельскі павет, або Аляксей Карпюк — в. Межвін л/Тапчэва, павінны працаваць у гэтых польскіх школах, калі яны маглі-б навучаць беларускую мову і іншыя прадметы на беларускай мове ў тых беларускіх школах, у якіх адчуваецца вялікі недахоп у кваліфікаваных настаўніцкіх сілах.

А такіх школ ёсць, як кажуць, больш як шмат. Хаця-б для прыкладу можна прывесці такія школы, як у Міхалове, Скрабляках — л/ст. Крынкі, Случанцы — л/Валіл, Мастаўлянах.

У размяшчэнні настаўніцкіх сіл у беларускіх школах назіраецца яшчэ і другая крайнасць. У многіх беларускіх школах ёсць за многа кваліфікаваных настаўніцкіх сіл. Іх можна выкарыстаць у іншых школах. Між іншым, такі стан наглядаецца ў Пачатковай школе ў Зубачах, Семятыцкі павет, у Трасцянцы і інш.

Ці не час ужо, каб Аддзел асветы ВРН у Беластоку больш сур'ёзна зацікавіўся справай правільнага размяшчэння кваліфікаваных беларускіх настаўнікаў.

С. Я.

# Аб зменах у беларускім правапісе

Першыя правілы беларускага правапісу былі сабраны Браніславам Тарашкевічам у яго граматыцы беларускай мовы, выдадзенай у 1918 г. у Вільні.

У 1926 г. Інстытутам беларускай культуры ў Мінску была склікана акадэмічная канферэнцыя па рэформе беларускага правапісу і азбукі. У канферэнцыі ўдзельнічалі і замежныя мовазнаўцы, у тым ліку і беларусы з Вільні.

Канферэнцыі не ўдалося ўвесці новыя літары на азначэнне гукаў дз і дж.

На канферэнцыі было вырашана словы іншамоўнага паходжання з зычным *л* пісаць па-беларуску з мяккім *л*, напрыклад, *плян, плянета, глёбус*. Было таксама вырашана не змякчаць *з* і *с* у словах іншамоўнага паходжання, значыць, пісаць *марксызм, асыстэнт, магазын*.

У 1933 г. Совет Народных Камісараў БССР зацвердзіў новы беларускі правапіс, апрацаваны Інстытутам мовы і літаратуры Акадэміі навук у Мінску.

Новы правапіс змяняў не толькі арфаграфічныя нормы. Ён часткова змяняў таксама некаторыя канчаткі назоўнікаў і дзеясловаў.

Былі скасаваны пастановы канферэнцыі з 1926 г. адносна мяккага *л* і цвёрдага *з* і *с* у ловах іншамоўнага паходжання. Паводле новага правапісу трэба пісаць *план, фізіка, марксізм* замест ранейшых: *плян, фізыка, марксызм*.

Было пашырана аканне на словы іншамоўнага паходжання: *філасофія, заалогія* замест *філёзофія, зоолёгія*.

Яканне было абмяжавана толькі да першага складу перад націскам.

У граматыцы былі ўведзены наступныя змены:

а) былі скасаваны канчаткі *-ом, -ох* у назоўніках мужчынскага роду ў давальным і месным склонах множнага ліку, а на іх месца ўведзены канчаткі *-ам, -ах*. Ранейшыя формы *братом, аб братох* былі заменены формамі *братам, аб братах;*

б) у другой асобе множнага ліку дзеясловаў загаднага ладу былі ўведзены формы з канчаткам *-іце (-ыце)* замест *-еце (-эце): касіце, бярыце* замест *касеце, бярэце*.

в) у першай асобе множнага ліку цяперашняга часу абвеснага ладу былі ўведзены формы на *-эм, -ем; бярэм, нясем* замест ранейшых *бяром, нясём*.

Бясспрэчна добрым у гэтай рэформе было скасаванне мяккага знака ў падваенні мяккіх зычных і пасля мяккага зычнага перад другім мяккім зычным. Замест ранейшага *сьмяяцца, насеньне* пачалі пісаць *смяяцца, насенне*.

Неўзабаве пасля другой сусветнай вайны пры Акадэміі навук БССР была створана Арфаграфічная камісія, якая апублікавала ў 1951 г. «Праект змен і ўдакладненняў беларускага правапісу».

# БЕЛАРУСЫ — БУДАЎНІКІ МАСКВЫ

Нядаўна знойдзены цікавыя матэрыялы аб беларускіх майстрах — рамесніках і іх работах у Расіі ў XVII стагоддзі.

Знойдзеныя дакументы пацвярджаюць, што беларускія рамеснікі працавалі ў розных гарадах рускай дзяржавы, куды яны пачалі пераязджаць, пачынаючы з 1654 года. Група рамеснікаў удзельнічала ў будаўніцтве Іверскага манастыра ля возера Валдай. Тут таксама знаходзіліся манахі аршанскага Куцеінскага манастыра. Яны прывезлі з Беларусі друкарскае абсталяванне і разгарнулі кнігавыдавецкую дзейнасць. Значная колькасць беларускіх майстроў будавала царквы каля Масквы. У саборным храме Нова-Іерусалімскага манастыра яны ўпрыгожылі памяшканні каляровымі кафлямі. З гэтых-жа кафляў імі былі зроблены і ўнікальныя іканастасы.

Мастацтва беларусаў атрымала шырокую вядомасць. У 1667 годзе беларускія майстры былі выкліканы ў Маскву па царскаму загаду. Частка іх была пакінута пры аружэйнай палаце, а астатнія замацаваны за прыказам Вялікага Палаца. Беларускія разьбяры, сталяры, працавалі над упрыгожаннем Крэмля. Імі былі выкананы складаныя заказы на разьбе, а таксама зроблена мэбля для Крэмлёўскага Палаца.

З цягам часу ў Маскве абсталявалася на пастаяннае жыхарства многа выхадцаў з беларускіх гарадоў. У 1672 годзе для іх была створана асобная Мяшчанская слабада. Кнігі перапісу гэтай Слабады за 1676 і 1684 гады сведчаць, што тут жылі майстры і гандляры з Мінска, Мсціслаўля, Лепеля, Ліды, Глыбокага, Навагрудка, Барысава, Магілёва і раду іншых месц. Асабліва многа рамеснікаў пераехала са Шклова, Дуброўны, Копыся. Гэта былі сталяры, ганчары, краўцы, пераплётчыкі, друкары, шабельнікі, срэбранікі і спецыялісты іншых галін. Захаваліся імёны аружэйнікаў Максіма Міхайлава і Трафіма Тэрліка з Копыся, разьбяроў Кліма Міхайлава са Шклова, Якава Іванова з Віцебска, Андрэя Фёдарава з Оршы. Выхадцы з Беларусі жылі таксама і за межамі Слабады. З дакументаў відаць, што ў Маскве ў тыя часы працавалі рамеснікі шасцідзесяці спецыяльнасцей.

Сабраныя матэрыялы пашыраюць нашы ўяўленні аб высокай культуры беларусаў у старажытны перыяд.

## Афрыканская аптэка

Калі ў вас забалела галава, ці вы схапілі насмарк, прасядзеўшы пад пралiўным дажджом на стадыёне, то вы ідзеце ў аптэку. Там да вашых паслуг самыя разнастайныя каплі і парашкі, таблеткі і пілюлі. Але-ж аптэкі сустракаюцца не ўсюды. Наўрад ці хто-небудзь разлічвае знайсці аптэку, скажам, у саванах Заходняй Афрыкі. Але, аказваецца, і тут яны існуюць.

Калі не верыце, прагуляйцеся па саване. Вы, напэўна, хутка ўбачыце невысокае галiністае дрэва з кароткім скрыўленым ствалом. Называецца яно «Саркацэфалюс»

Буйныя салодкія плады гэтага дрэва, якія смакам і пахам нагадваюць суніцы, — улюбёны ласунак тубыльцаў Залатога Берага і Усходняга Судана. Каштоўныя таксама жоўтая фарба для скуры, якая здабываецца з кары, і прыгожая чырванавата-барвовая драўніна.

Але галоўнае не гэта.

Жаўтаваты густы настой з кары гэтага дрэва прымяняюць як лякарства пры малярыі і малакроўі. Настой гэты таксама аказваецца карысным пры рвоце і страўнікавых захворваннях. Адвар з драўніны аднаўляе сілы і садзейнічае страваванню. Жвачка з кары дапамагае пры зубной болі. Высушаная кара і карэнні саркацэфалюса валодаюць абеззаражваючымі ўласцівасцямі і служаць для прысыпкі ран. Кара і карэнні вядомы пад назвай «афрыканскай хіны», таму што яны доўгі час прымяняліся як замяніцель хініну.

Ідзе ў справу таксама і лісце. Настой з яго выкарыстоўваецца для прымочак і для прыёму ўнутр пры ліхарадцы. Жыхары Ліберыі лечаць дызінтэрыю, разжоўваючы пасыпанае перцам лісце саркацэфалюса.

Лекавыя ўласцівасці розных частак гэтага каштоўнага дрэва растлумачваюцца наяўнасцю ў іх асобых рэчываў — алкалоідаў, якія валодаюць уласцівасцю знішчаць хваробатворныя і гнiласныя мікробы.

## Самая доўгая кабельная лінія

Самая доўгая кабельная лінія злучае Лондан з Сіднеем працягласцю каля 24 тысяч кілометраў. Большая частка трасы гэтай лініі праходзіць на глыбіні звыш 3 тысяч метраў. Для ўкладкі кабелю быў прыменен спецыяльны брытанскі кабельны параход «Стэнлі Англін», з якога кабель спускаўся на дно акіяна.

Гэтая лінія мае 9 прамежкавых станцый на розных астравах, прычым максімальная адлегласць паміж імі роўна 5.578 кілометраў.

## Развіццё тэлебачання ў Беларусі

Перадачы Мінскага тэлецэнтра глядзяць працоўныя Мінскай і Маладзечанскай абласцей. Асобныя радыёаматары зманціраваўшы спецыяльныя прыстасаванні, прымаюць яе перадачы ў Оршы, Лідзе, Навагрудку і радзе іншых пунктаў.

Кола гледачоў тэлецэнтра ўсё больш пашыраецца. 64 метровая антэна ўзнялася над Баранавічамі. Гэта дазволіць насельніцтву горада ў бліжэйшы час прымаць перадачы са сталіцы рэспублікі. Зманціравана ўжо абсталяванне тэлетрансляцыйнага пункта. Апаратура знаходзіцца ў працэсе наладкі і настройкі. У магазіны горада завезены тэлевізары.

Праз паўтара-два месяцы можна будзе глядзець перадачы Мінскага тэлецэнтра ў Бабруйску. У горад дастаўлена неабходная апаратура, выбрана пляцоўка для ўстаноўкі мачты рэтранслятара. Яе вышыня таксама вызначана ў 64 метры. Мачту вырашана зрабіць аблегчанай канструкцыі, што спросціць мантажныя работы. У Магілёве для рэтранслятара ўзведзен спецыяльны будынак. Тут сувязісты ўстановяць мачту больш высокую — 100-метровую. Магілёўскі рэтранслятар пачне дзейнічаць у канцы першага квартала.

У Гомелі ўжо існуе зманціраваны мясцовымі радыёаматарамі самадзейны тэлецэнтр. Гамяльчане глядзяць тэлеперадачы Кіева.

Распрацаван план будаўніцтва ў Беларусі тэлевізійных цэнтраў і рэтранслятараў. Цяпер вывучаецца траса і праектуецца радыёлерэйная лінія, якая звяжа дзве сталіцы саюзных рэспублік — Мінск і Вільнюс.

(БЕЛТА).

Кулінарыя

## Расольнік з цялячай грудзінкай

Цялячую грудзінку прамыць халоднай вадой, пакласці ў каструлю, закрыць яе накрыўкай і паставіць на агонь. З закіпеўшага бульёну зняць пену. Пятрушку, сельдэрэй, моркву і цыбулю ачысціць, прамыць, нарэзаць саломкай, скласці ў другую каструлю з растопленым тлушчам, тушыць, зрэдку памешваючы. Салёныя агуркі ачысціць ад скуркі, разрэзаць удоўж, насенне выбраць, нарэзаць упоперак тонкімі ромбікамі, пакласці ў каструлю з пасераваным карэннем, дадаць долькі ачышчанай бульбы, заліць усё гэта працэджаным бульёнам, дадаць 1—2 лаўровыя лісты, 5—6 гарошын перцу. За некалькі хвілін да гатоўнасці ўліць у суп кіпячоны і працэджаны агурочны расол. Гатовую грудзінку падзяліць на порцыі.

Пры падачы на стол у кожную глыбокую талерку з расольнікам пакласці па кавалачку грудзінкі, дадаць смятану і пасыпаць дробна нарэзаным зялёным кропам.

К. БАЛІНСКІ

# ВАСЬКАВЫ КУФЭРАК

Параход С/С «Шлёнск» за некалькі гадзін меўся пайсці ў апошні (перад рамонтам) рэйс. Выслужыла старына сваё. Нябачнымі вачыма дзіркамі ў жалезным корпусе праходзіла вада, у топкі катлоў трэба большую колькасць вугалю засыпваць — машына з кожным рэйсам слабла, нікому з каманды парахода не падабалася праца вінта, усе вырашылі, што параходу пара лячыцца. І так дачакаліся матросы апошняга рэйса, яшчэ раз завязуць у Швецыю паўтары тысячы тон вугалю, возьмуць адтуль жалезную руду і іх любімец залезе высока на сліп, а яны раз'едуцца ў дамы на чаканы ўсімі водпуск.

Кожны з матросаў спраўляўся як найлепш з працай, каб хутчэй паехаць дамоў. Ніхто не чуў і не лічыў, што апошні рэйс акажацца не зусім латвы, што прыдзецца ў ім пражыць цяжкія хвіліны, што сваё роднае Балтыйскае мора закапрысіць, што пакажа яно камандзе «Шлёнска», што нельга заўчасна расставацца з морам на тыдзень уперш збірацца да набліжаючагася ад'езду ў хату.

Вася Нікалаюк хоць ужо ад некалькіх месяцаў лічыў сябе марскім ваўком, павінен быў паслухаць старога прайдзісвета па ўсіх партах «стэварда» Зарэмбу.

Прыйшоў ён да Васі і здзіўленым голасам сказаў: — Няўжо-ж вы не паплывеце з намі ва Уэльфі? Пачаткова Вася не дачуў яго і далей пакаваў свой куфэрак. Зарэмба ўзнавіў пытанне. Вася тады адвярнуўся і адказаў: — Што-ж вы Зарэмба — добра ведаеце, што ніхто з каманды не атрымаў водпуск, ды ўсё «замустраваны».

Зарэмба з недавер'ем пакруціў галавой.

— Нельга таварыш — намеснік капітана, да прыбыцця з рэйса пакавацца, з гэтага ніколі нічога добрага не выйшла, лепш пачакайце, часу яшчэ будзе шмат.

Вася ўсміхнуўся, у школе ніхто не казаў аб такіх выпадках. — Эх старына, старына няўжо-ж цяпер летам падчас гэтага кароткага рэйса здарыцца што.

— А калі нават, — то прычым тут мой куфэрак.

— Вы яшчэ малады — адказаў Зарэмба — вы яшчэ верыце мору, а яно любіць падвесці, і то як яшчэ.

—А ці-ж я — апраўдоўваўся Вася — сказаў, што мору можна верыць? Ну, думаю (і тут нікольki не баюся памылкі), што смела можна здацца на людзей мора, на вас Зарэмба, на ўсю нашу каманду, а куфэрак ужо спакаваны, не вернеш.

Вася скончыў спрэчку са стэвардам, палажыў на месцы акуратна спакваны куфэрак і пайшоў на палубу. У люкі карабля кран скідаў апошнія тоны вугалю, чорны пыл пакрыў груба ўсё навокал, вахтавыя матросы выглядвалі як негры. Да левага борта прычапіўся ўжо буксір, дым з яго трубы выціскаў слёзы з вачэй. Частка каманды чакала канца нагрузкі на прыстані і халадзілася півам у кіёску.

Вася прыняў яшчэ пачкі са свежымі друкамі і ўцёк у кабіну хаваючыся ад вугальнага пылу, тут стаў чытаць новыя часопісы і выбіраць з іх матэрыялы ў насценгазету. Аж нарэшце стукат прыціх. Нагрузка відаць скончылася, толькі адчувалася лёгкае, аднастайнае дрыжэнне машын карабля. Выйшаў ізноў на палубу яго абавязкам было агледзіць з пагранічнікамі (да выхаду ў мора) карабель. Гэта ўсё заняло не больш гадзіны. Стольki часу хапіла на тое, каб змыць вадой палубу. «Негры» зноў сталі беласкурымі і ўцягвалі на палубу грубыя тросы якімі быў прычалены карабель да прыстані. Па трапу сашлі на бераг цэльнікі і пагранічнікі, матросы ўжо разцалаваліся са сваімі жонкамі. Капітан у белым, як снег мундзіры, стаў на мастку.

Вася паглядзеўшы на «старога» пазайздросціў.

— Ніхто з каманды не мог дайсці, якім спосабам пры перавозцы вугалю можна мець такі чысты мундзір.

Буксір даў гудок, стальны трос, грубасці кракаўскай каўбасы — нацягнуўся. Карабль метр па метры адыходзіў ад прыстані, усе матросы памахвалі хустачкамі.

Праз палубу прайшло сільнае дрыжэнне, машына карабля пайшла на поўны ход і хутка выйшла з вугальнага басейна ў аванпорт. Развітаўшыся гудком з буксірам і портам — «Шлёнск» выйшаў на поўнае мора. Белыя будынкі Гдыні памалу расплываліся ў марскім прасторы. На караблі запанавала нармальнае жыццё—вахтавы вызваніў абед.

* * *

Карабль, хоць так невялікі як «Шлёнск», прыносіць немалы даход. Самае важнае ў марскім гандлю — гэта хуткасць перавозкі грузу. Каб гэтага дасягнуць, — трэба апрача добрага плывання ведаць парадкі ў партах і папасці з грузам у добры час, каб знайсці месца ў порце для выгрузкі і каб зараз потым прыняць новы тавар — адправіцца ізноў у мора.

Капітан «Шлёнска» добра ведаў, што самай лепшай парой да прыбыцця ў шведскі порт Уэльфі з'яўляецца раніца і хацеў гэтак зрабіць і ў апошнім рэйсе. Параход ішоў поўным ходам. Да Уэльфі заставалася яшчэ пяцьдзесят міляў — пяць гадзін плыцця грозным Батніцкім залівам. На добры парадак можна было прачакаць ноч на якары і ўвайсці ў порт у дзень. Але гэта абазначала страту двух сутак і правал квартальнага плана перавозак. — А тут якраз Вася на сходзе каманды падняў абязацельства датэрмінова выканаць план II квартала. Радыёграма аб гэтым паслана ў Гдыню. У такім выпадку кожная мінута з'яўляецца цэннай. І вось тут пад носам, пад самым Уэльфі раптам выпаўзла невядома адкуль густая імгла, якую ледзь прабіваў рэфлектар. Другі афіцэр, які трымаў начную вахту, стаў даваць сігнал гудком і паслаў павядоміць капітана аб сітуацыі.

(Працяг на стар. 7.)

